


# DISTRICTUS
# ПАВЕТ



ВЫДАННЕ КРАЯЗНАЎЦАЎ БРАСЛАЎШЧЫНЫ

№ 2 (55) ЛЮТЫ 2007 г.


# БЯЛЬМОНТЫ (працяг)

*Гісторыі маёнтка Бяльмонты быў цалкам прысвечаны папярэдні нумар "Павета". Рэдакцыя меркавала гэтым і абмежавацца, аднак назапашана столькі цікавага матэрыяла пра Бяльмонты, што рэдакцыя вырашыла працягнуць тэму. Больш таго, пры завяршэнні працы над гэтым нумарам аказалася, што шмат матэрыялаў усё роўна не пабачаць свет. Мяркуем у будучым неаднойчы звяртацца да мінулага Бяльмонтаў.*






# Уладальнікі Бяльмонтаў

***1748 – 1944 гады***

## Гільзены

У 1748 годзе маёнтак, які да гэтага называўся Ахрэмаўцы, набыў ад Сальмановічаў Ян Аўгуст Гільзен з суседніх Інфлянтаў (сучасная Латгалія Латвійскай Рэспублікі).

Прыбалтыйскі род Гільзенаў (па-польску - Hylzen) меў нямецкае паходжанне. Прадстаўнікі роду (па-нямецку - Huelsen de Eckeln ці Hulzen ab Ecken) у пачатку XVI ст. прыехалі на службу ў Лівонскі ордэн з Мархіі, дзе Гільзены адносіліся да ліку найстарэйшых і заможных дваран. У Дынабургу Гільзены займалі розныя адказныя пасады, а ў наваколлі, у тым ліку ў Курляндыі, атрымлівалі зямельныя ўладанні. Дзед бяльмонцага ўладальніка Ян Францішак Гільзен быў канцлерам Курляндскага герцагства. Яго сын Ежы Канстанцін Гільзен (1673 - 1737 гг.) з'яўляўся шамбелянам (камергерам) караля Аўгуста II Моцнага. Згадаем, што кароль быў немцам і немцы Гільзены мелі ад яго падтрымку. Разам з тым Гільзены паступова станавіліся патрыётамі Рэчы Паспалітай, прыхільнікамі яе культуры, польскай мовы.

Ян Аўгуст Гільзен (1702 - 1767 гг.) верна служыў Рэчы Паспалітай, займаў у дзяржаўнай іерархіі розныя пасады. Ён быў рэгентам канцылярыі Вялікага княства Літоўскага, кашталянам інфлянцкім (гэты ганаровы тытул даваў яму права займаць крэсла сенатара ў сенаце Рэчы Паспалітай). У 1754 г. Я.А.Гільзен прызначаны ваяводам мінскім і ў тым жа годзе з рук караля ў Варшаве атрымаў ордэн Белага Арла. Я.А.Гільзен з'яўляўся і старостам браслаўскім, узначальваў адміністрацыю Браслаўскага павета. Пад Браславам ён і нагледзеў сабе маёнтак, які вырашыўператварыць у прыгожую рэзідэнцыю і даў ёй прыгожую прадстаўнічую назву - Бяльмонт. К палове XVIII ст. Гільзены ўжо мелі шмат уладанняў. Іх галоўная рэзідэнцыя - Дагда, знаходзілася ў Інфлянтах. Акрамя гэтага, ім належалі маёнткі пад Гданьскам, Варшавай, у Беларусі (Асвея). Бяльмонты займалі сярод іх не апошняе месца, менавіта таму Я.Гільзен пачаў узвядзенне тут велічнага палаца.

Я.Гільзен вядомы яшчэ і як гісторык-аматар. Ён напісаў і выдаў сваім коштам працу "Інфлянты ў сваіх даўніх і разнастайных ажно да нашага часу дзеях і рэвалюцыях..." (Вільня, 1750). Фаліянт амаль на 500 старонак на тытуле меў прозвішча аўтара Яна Аўгуста Гільзена, сярод тытулаў якога надрукавана "староста судовы браслаўскі". Я.Гільзен памёр 14.02.1767 г. у Варшаве, пахаваны ў Дагдзе.



**Герб «Пілава» Тэрэзы Патоцкай**

Разам з жонкай Канстанцыяй з Броэль-Плятэраў Я.Гільзен меў двух сыноў. Бяльмонты перайшлі да старэйшага - Юзафа Ежы Гільзена (1736 - 1786 гг.). Ён адзначаўся з маленства розумам і энергічнасцю. Бацька даў яму пачатак адукацыі, асабліва ў мовах, гісторыі, а пазней перадаў пад апеку Караля Вырвіча, вучонага-езуіта (дарэчы, нараджэнца Браслаўшчыны, аўтара першых падручнікаў па геаграфіі). Разам з настаўнікам малады Гільзен падарожнічаў па Еўропе і вучыўся. У 18 гадоў ён вяртаецца на Бацькаўшчыну, дзе яго адносілі да ліку самых адукаваных маладых людзей. 19 сакавіка 1756 г. у 20 дзень нараджэння бацька падараваў Юзафу тытул старосты браслаўскага. Ю.Гільзен урачыста ўехаў у Браслаў, каб адзначыць пачатак сваёй службы. У гэтым жа годзе юнак стаў паслом на Сойм Рэчы Паспалітай ад Інфлянтаў. У 1761 г. Ю.Гільзен пажаніўся з Тэрэзай Патоцкай, родам з Валыні, дзе бацька быў ваяводам. Праз год у Бяльмонтах у маладых нарадзіўся сын Ян (названы ў гонар бацькі і дзеда). Гільзены пасяліліся ў Бяльмонтах, але Юзаф часта выязджаў па дзяржаўных справах у Варшаву, іншыя гарады краіны. Быў сенатарам, ваяводам мсціслаўскім (пасля дзядзькі Плятэра).

Як сведчаць гістарычныя крыніцы, Юзаф быў спакойны, стрыманы, цягнуўся да навук, любіў кнігі. Яго сямейнае жыццё не склалася. Маленькім памёр сын, з жонкай часта сварыліся, і таму разышліся (другім мужам Тэрэзы стаў Шыман Касакоўскі). Юзаф Гільзен пакінуў Бяльмонты, якія яму вельмі падабаліся, і з'ехаў шукаць уцех у Парыж. Там заняўся пісьменствам і па некаторых звестках меў поспех у публікі. Пазней пераехаў у Рым, дзе і памёр у 1786 г., маючы каля 50 гадоў. Перад смерцю Ю.Гільзен напісаў завяшчанне, якое выклікала вялікі розгалас. Уладальнік маёнтка, які лічыўся адным з самых вялікіх у Браслаўскім павеце, выказаў жаданне палову даходаў прызначыць на навуку, навучанне (дарэчы, з грошай Гільзена ўтрымліваліся школы ў Полацку, Асвеі, Краславе і інш.), 36 000 злотых - на патрэбы жабракоў, бедакоў і магчымасць аддзяляцца ад маёнтка са сваёй уласнасцю.

Аднак самае галоўнае - ён дараваў падданым вольнасць. Менавіта гэты пункт тэстаменту выклікаў вялікую рэакцыю ў грамадстве. Дакумент існаваў у трох экземплярах, якія зберагаліся ў Браславе, Дрэздэне і Рыме. Па шэрагу прычын некаторыя пункты завяшчання пачалі выконвацца толькі ў пачатку XIX ст.

Вельмі цікавы і такі пункт завяшчання, у якім Юзаф піша, што незалежна ад таго, у якім месцы яго напаткае смерць, хацеў бы, каб цела было перанесена ў касцёл пры Бяльмонцкім маёнтку. На гэты касцёл, ім жа ўзведзены ў 1768 годзе, Ю.Гільзен адпісвае 21 600 злотых. Па ўсяму відаць, што Ю.Гільзен вельмі любіў Бяльмонцкую рэзідэнцыю.



**Надмагільны помнік Ежы Канстанціна Гільзена ў велічным касцёле ў Аліве (прадмесце Гданьска). У некалькіх сотнях метраў ад касцёла, у памяшканні этнаграфічнага музея, ў 2004 г. экспанавалася выстава «Браслаўшчына». Фотаздымак зроблены ў дзень адкрыцця выставы, калі ў Гданьск прыязджала дэлегацыя Браслаўскага музея**

Наступным уладальнікам Бяльмонтаў стаў сын брата Юзафа - Ідзі Гільзен. Ён нічым асаблівым не вылучаўся, меў настолькі спакойны характар, што яго часам лічылі недавумкам. З жонкай Марыяй з Бжазоўскіх ён жыў у Дагдзе. Напэўна, час ад часу наведваўся ў Бяльмонты. З архіваў вядома яго супрацьстаянне з жыхарамі Браслава, якія захацелі аднавіць для горада Магдэбургскае права. У красавіку 1798 г. Ідзі Гільзен прадаў Бяльмонцкі маёнтак Мікалаю Мануццы. Неўзабаве былы бяльмонцкі уладальнік і староста браслаўскі загінуў. Падчас прагулкі на кані па парку ў Дагдзе ён праваліўся пад мост. Яго жонка Марыя выйшла другі раз замуж за Людвіка Плятэра, вядомага тым, што ён сябраваў з Фрэдэрыкам Шапэнам.

Пасля Ідзі Гільзена прыбалтыйскае адгалінаванне роду перарвалася.

З Гільзенамі цесна звязаны род Шадурскіх. Адзін з іх - Вацлаў Шадурскі ў 1920 - 1922 гадах узначальваў

адміністрацыю Браслаўскага павета. Добраахвотна пайшоў з пасады старосты і пасля гэтага быў юрыдычным дарадцам адміністрацыі Бяльмонцкага маёнтка.

## Мануццы

У 1798 годзе ўладальнікам Бяльмонтаў становіцца граф Мікалай Мануццы. Інфармацыі аб родзе Мануццы ў нашым распараджэнні няма. Яе можна знайсці ў Internet, але, на жаль, доступ да генеалагічнага дрэва роду абмежаваны.

Вядома, што М.Мануццы з Венецыі. Яго бацьку згадаў у сваіх мемуарах знакаміты авантурнік XVIII ст. Джакома Казанова. Ён ахарактарызаваў Мануццы старэйшага як шпіёна і інструмент венецыянскай інквізіцыі, дзякуючы якому аўтар мемуараў трапіў за краты. Згаданы ў мемуарах Казановы і сын, як чалавек, які дабіўся пэўных поспехаў у Польшчы, дзякуючы ўдалай жаніцьбе.

Атрымаўшы нядрэнную адукацыю, Мікалай Мануццы быў сакратаром пры пасольствах Венецыянскай рэспублікі ў Мадрыдзе, Парыжы. Потым лёс закінуў яго ў Санкт-Пецярбург. Тут ён знаходзіўся пры дварах Елізаветы, пазней - Кацярыны, тут пазнаёміўся з будучым каралём Рэчы Паспалітай Станіславам Панятоўскім. Калі той стаў манархам, у Варшаву паехаў і граф, казалі, у якасці шпіёна расіян. У Варшаве графу пашчасціла, ён пазбавіў караля ад чарговай каханкі: прыгажуні Ядвігі Струтынскай, шляхцянкі з Браслаўшчыны. Ядвіга стала жонкай графа. Кароль аддзячыў М.Мануццы перадачай яму ва ўладанне Опсаўскага і Дамашоўскага старостваў на Браслаўшчыне. Падрабязнасці гэтай гісторыі змяшчаліся і на старонках "Павета" і ў кнізе "Памяць".

З 1776 года да 1806 г. лёс графа цесна звязаны з Браслаўшчынай. Ён стаў уладкоўваць тут сваю рэзідэнцыю, спачатку ў Опсе, пазней у Богіна, займаецца гаспадарчымі пытаннямі. Уладанні графа пастаянна пашыраліся. У 1780 г. ён набыў у Цеханавецкіх Богіна і навакольныя землі, пазней стаў уладальнікам Стаўрова, земляў каля Казянаў, вялікага маёнтка вакол мястэчка Салокі (сучасная Літва). Пасля набыцця Бяльмонтаў граф стаў самым буйным землеўласнікам Браслаўшчыны. У канцылярыі Паўла І знаходзілася папера, паводле якой ва ўласнасць Мануццы павінна была перайсці ўсё Браслаўскае староства (гэта 2,5 тыс. дзесяцін). Замах на імператара перакрэсліў гэтыя чаканні графа.

З мясцовымі ўладальнікамі М.Мануццы жыў вельмі дрэнна. Тыя з непрыхільнасцю глядзелі на зусім чужога для рэгіёна чалавека са скандальнай вядомасцю. Да таго ж, граф не вельмі добра размаўляў па-польску, а пісаў выключна па-французску. У сваю чаргу сам М.Мануццы ні ў што не ставіў сваіх суседзяў. Амаль увесь час знаходжання на Браслаўшчыне ён вёў дзесяткі войнаў з суседзямі. Паводзіў сябе жорстка, бескампрамісна, маючы вялікі ўплыў сярод мясцовых і вышэйшых урадаў. У архівах зберагаюцца дзесяткі, калі не сотні, судовых разбіральніцтваў, звязаных з М.Мануццы. Некаторыя з іх разбіраліся на самым высокім узроўні ў сталіцах. Калісьці яны дачакаюцца даследчыкаў.



Герб «Сас» Ядвігі Струтынскай

У складаны крызісны для Рэчы Паспалітай перыяд XVIII ст. М.Мануццы заўсёды займаў прарасійскую пазіцыю. І невыпадкова. Галоўная крыніца яго багаццяў - не даходы ад зямельнай уласнасці, якія значна зменшыліся ў крызісны час, а грашовыя ганарары ад расіян за пэўныя паслугі. У адной са скаргаў М.Мануццы пісаў, што падчас паўстання Т.Касцюшкі 1794 г. яго маёмасці ў Богіна былі нанесены страты ў 3 600 000 злотых - фантастычныя па тых часах грошы. Сам граф падчас паўстання быў вымушаны ратавацца. У 1792 годзе ён актыўна дапамагаў расіянам, якія занялі Браслаўскі павет, спецыяльна для гэтага прыехаў з Рыгі. Прадстаўніком Таргавіцкай, прарасійскай канфедэрацыі ад Браслаўшчыны ён адправіў у Вільню свайго сына Станіслава. Станіслаў Мануццы з"яўляўся паслом Вялікага Сойму (1788-92 гг.). Пасля падаўлення паўстання і ліквідацыі Рэчы Паспалітай М.Мануццы з сынам апынуліся ў Санкт-Пецярбургу. Кацярына прызначыла старэйшаму графу пенсію да канца жыцця ў 1 тыс. чырвоных злотых, а сыну - 600. У расійскай сталіцы граф жыў на шырокую нагу. Сярод іншага, падтрымліваў сувязь і з былым каралём Станіславам Аўгустам, які перабраўся ў сталіцу з Гародні. Шмат часу праводзіў у былога манарха Станіслаў Мануццы. Тут самы час сказаць, што калі ў жонкі М.Мануццы Ядвігі ў 1773 г. нарадзіўся сын, то амаль ніхто не сумняваўся, што сапраўдны бацька яго - кароль. Дарэчы, Станіслаў Аўгуст выхоўваўся пры маці, якая хутка па шлюбе з"ехала ад мужа, а пазней хлопчыка забраў Мікалай Мануццы.

Станіслаў Мануццы характарам быў зусім непадобны на графа. Быў вельмі рэлігійным (выхаванне атрымаў у полацкіх езуітаў), не любіў свецкага жыцця, паважаў навуку, культуру. У лісце да Адама Чартарыйскага дэклараваў аб выдзяленні 28 тыс. рублёў на парафіяльныя школы, школу для шляхты. Пасля смерці бацькі ён залагодзіў усе судовыя справы з суседзямі. У 1814 г. мясцовая шляхта абрала яго маршалкам і гэтую пачэсную пасаду ён займаў да смерці.

Апошнія гады графа Мікалая Мануццы былі не вельмі шчаслівыя. Новы імператар Аляксандр І адносіўся да яго непрыхільна. У 1802-1806 гг. доўжылася



**Надмагільная пліта Станіслава Мануццы. Гэта пліта змешчана ў інтэр"еры Опсаўскага касцёла. Калі касцёл зачынілі яе схавалі парафіяне. У 2006 г. пліта перададзена ксяндзу Эдуарду Ахрамовічу жыхарамі в.Медзюкі П.Друсём, Г.Бейнарам. такім чынам у храме можна ўбачыць вельмі цікавы гістарычны помнік**

судовае разбірацельства з падданымі Браслаўскага старостава, якую граф прайграў. Фінансавыя справы маёнтка аказаліся ў дрэнным стане. У 1806 г. стары граф з'ёхаў у маленькі фальварак Альбінова, дзе і памёр у 1809 годзе.

Сыну ў спадчыну дасталіся вялікія фінансавыя праблемы. Да таго ж, значныя страты маёнтку нанеслі падзеі 1812 г. Сам Станіслаў, які прыняў бок Напалеона, трапіў у палон, утрымліваўся ў сталіцы, а потым быў пад наглядам паліцыі. Спрабаваў наладзіць гаспадарку маёнтка, але вялікіх поспехаў не дасягнуў.

Дарэчы, стары граф выявіў нядрэнныя адміністрацыйныя якасці: ён наладзіў сплаў лесу маёнтка да Рыгі, дзе меў сваю кантору, актыўна будаваў фальварак, дарогі, масты, асушваў балоты, клапаціўся пра захаванне рыбных багаццяў азёр. Калі б не яго бясконцыя авантуры, то магчыма М.Мануццы ператварыў бы Бяльмонты ва ўзорны маёнтак і пакінуў бы сыну надзейную спадчыну.

Станіслаў пачаў грунтоўную перабудову рэзідэнцыі, але толькі разбурыў старое. 23 сакавіка 1823 года Станіслаў Мануццы раптоўна памёр ва Уцене. Быў пахаваны ў Опсаўскім касцёле. Нагадаем, што Опсаўскае наваколле адносілася да ўладанняў Мануццы. Дзяцей не меў і таму праз жонку Канстанцыю Плятэр Бяльмонцкі маёнтак трапіў у рукі Плятэраў.

# Плятэры

Плятэры - гэта яшчэ адзін шляхецкі род нямецкага паходжання з Інфляптаў (Латгаліі). Прадстаўнікі гэтага роду прыбылі ў Прыбалтыку з Вестфаліі, дзе першыя гістарычныя звесткі пра Плятэраў адносяцца да 1160 года. У XII-XV стст. іх поўнае імя гучала: фон - дэм - Бролё - Плятэр. Нагадаем, што Вестфалія - гістарычная вобласць паміж Рэйнам і Везерам, дзе існавала Герцагства Саксонскае. Ужо ў XV ст. род збяднсў і яго прадстаўнікі шукалі фартуны ў іншых землях. Першым Плятэрам у Прыбалтыцы быў Венемар, згаданы ў 1430 г. Дарэчы, ён быў маршалам Лівонскага ордэна. Вядома яшчэ некалькі Плятэраў, рыцараў гэтага ордэна. Пры ўступленні ў ордэн яны адмаўляліся ад шлюбу і таму не пакідалі нашчадкаў. Заснавальнікам роду Плятэраў, які існуе да гэтае пары, лічыцца Фрэдэрык Плятэр. Яго сын, таксама Фрэдэрык, заснаваў балтыйскі дом Плятэраў, які меў вялікую колькасць ліній. Што да Нямеччыны, то там род Плятэраў перапыніўся ў XVII ст. Прадстаўнікі роду яшчэ ў XIX - пачатку XX стст. мелі маёнткі на тэрыторыі Латвіі, Літвы, Эстоніі, Беларусі, Украіны, Польшчы, у шэрагу іншых еўрапейскіх краін. Побач з Браслаўшчынай знаходзіліся такія рэзідэнцыі Плятэраў як Індрыца і Краслава. Асабліва ўзрасло значэнне Краслаўскай рэзідэнцыі з XVIII ст. Тут быў узведзены велічны сядзібна-паркавы комплекс, а гаспадарчая дзейнасць Плятэраў ператварыла невялічкае паселішча на беразе Дзвіны ў значны гандлёва-рамесны цэнтр. Краслава з'яўлялася таксама значным культурным асяродкам.



**Дакумент, падпісаны Канстанцыяй Мануццы (Плятэр). 9 красавіка 1829. Бяльмонты. Герб Плятэраў.**
***Экспазіцыя гістарычна-краязнаўчага музея***

Сярод Плятэраў было шмат значных гістарычных асоб. Сярод іх, напрыклад: Адам Плятэр (1790-1867 гг.) - археолаг, краязнаўца, калекцыянер; Эмілія Плятэр (1806-1831 гг.) - гераіня паўстання 1830-31 гг., збіральніца беларускага фальклору. Ім прысвечаны асобныя публікацыі ў важнейшых беларускіх энцыклапедыях. Заслугоўвае ўвагі Уладзімір Плятэр (1831-1906 гг.) - калекцыянер, бібліяфіл, выдавец гістарычных крыніц, між іншым, аўтар 9-томнай гісторыі роду Плятэраў (рукапіс). 6 красавіка 1906 года ён памёр у Опсе.

Сярод Плятэраў было шмат асоб, якія займалі адказныя пасады ў дзяржаўнай іерархіі Вялікага княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай. Згадаем Яна Андрэя (каля 1626-1696 гг.), Філіяна (каля 1628-1707 гг.) - ваяводаў інфлянцкіх, Фердынанда Фабіяна Вільгельма (каля 1678-1739 гг.) - лоўчага ВКЛ, маршалка дворнага ВКЛ, Канстанціна Людвіка (1722-1778 гг.) - вялікага пісара ВКЛ кашталяна полацкага, ваяводу мсціслаўскага, кашталяна трокскага, маршалка Трыбунала ВКЛ, Юзафа Вінцэнта (1745-1806 гг.) - генерал-лейтэнанта, пісара польнага ВКЛ, кашталяна трокскага, старосту брэсцкага і г.д. Цікава, што некаторыя Плятэры былі цесна звязаны з Мальтыйскім ордэнам, а Юзаф Вінцэнт заснаваў у Талачыне ў 1775 годзе родавую камандарыю гэтага ордэна.

Некаторыя з Плятэраў былі звязаны з гісторыяй Браслаўшчыны. Канстанцін Людвік Плятэр (1722-1778 гг.), дзяржаўны дзеяч, староста інфлянцкі, кашталян трокскі, у 1753 г. быў дэпутатам Сойма ад Браслаўскага павета. Падчас пашырэння сваіх уладанняў набыў маёнтак Неўляны Браслаўскага павета, у 1754 г. зрабіў грашовы ўклад на карысць езуіцкай школы ў Відзах. Сын, Канстанцін Аўгуст Гіачынт (1745-1803 гг.), быў абраны паслом Сойма ад Браслаўскага павета. Але па нейкіх прычынах у Варшаву не прыбыў. Быў вядомы як прыхільнік Расіі. У 1779 годзе ў Краславе Аўгуст прымаў імператрыцу Кацярыну II, якая ехала ў Полацк. Таргавічанін Ш.Касакоўскі прапанаваў зрабіць А.Плятэра маршалкам Браслаўскага павета Таргавіцкай канфедэрацыі. 27 ці 28 мая 1782 г. А.Плятэр прыбыў у Браслаў, куды пад прымусам генерала Даўгарукага збіралася мясцовая шляхта, і падпісаў акт канфедэрацыі. У лісце да другога расійскага генерала Крачэтнікава А.Плятэр пісаў аб энтузіязме і радасці шляхты, а 18 чэрвеня па загаду гэтага ж генерала напісаў універсал на тэму аб парадку ў павеце і з заклікам далучыцца да канфедэрацыі. У інструкцыі браслаўскім паслам на сойм 1793 г. адзначалася роля А.Плятэра ў абароне мясцовай шляхты ад расійскіх войск.

З роду Плятэраў была Канстанцыя, жонка Яна Аўгуста Гільзена (1702-1767 гг.), заснавальніка Бяльмонцкай рэзідэнцыі. Такое ж імя насіла і жонка новага ўладальніка маёнтка Станіслава Мануццы. Канстанцыя Плятэр (1782 - 1874 гг.) нашмат перажыла свайго мужа, які раптоўна памёр у 1823 г., і далучыла Бяльмонцкі маёнтак да багаццяў Плятэраў.

Уладальнікам Бяльмонтаў пасля смерці Станіслава Мануццы стаў Ігнацы Вільгельм (1791-1854), малодшы брат Канстанцыі, жанаты на Ідаліі Адэлаідзе Сабаньскай. Бяльмонты паспрабавалі адсудзіць у Плятэраў Струтынскія, нашчадкі Ядвігі. Судовае разбіральніцтва доўжылася больш за палову стагоддзя. Пасля І.Плятэра ўладальнікам маёнтка стаў яго малодшы сын Фелікс Вітольд Плятэр (1849-1924). Яго жонкай была Эльжбета Патоцкая (1874-1960) герба Пілава. Аб апошніх Плятэрах яшчэ зусім нядаўна можна было запісаць успаміны ад старажылаў. Такія ўспаміны зберагаюцца і ў зборах Браслаўскага музейнага аб'яднання. Адзначым, што Фелікс Плятэр паказаў сябе як дбайны гаспадар, пры якім гаспадарка маёнтка дасягнула росквіту. Запомнілася мясцовым жыхарам урачыстая цырымонія пахавання графа. Вялізны натоўп людзей праважаў нябожчыка з Браслава, куды даставілі цела, да фамільнага склепа ў Бяльмонцкай капліцы. Пасля смерці графа мужам Эльжбеты стаў Мар'ян Радэцкі-Мікуліч. Гэта быў землеўладальнік з наваколля Дрысвяцкага возера. У пачатку 1920-х гг. ён быў намеснікам Браслаўскага старосты, у 1922 г. выконваў абавязкі старосты, а пазней стаў працаваць у адміністрацыі маёнтка Бяльмонты. Радэцкі-Мікуліч быў на 18 гадоў маладзейшы за графіню, але падобна яго цікавіла не пані Эльжбета, а яе багацці.

Старая графіня з'ехала з Бяльмонтаў з надыходам саветаў, бавіла час у маёнтку ў часы гітлераўскай акупацыі і пазней назаўсёды развіталася з Браслаўшчынай. Апошнія гады правяла ў Варшаве, дзе між іншым Плятэры мелі прадстаўнічы палац, канфіскаваны народнай уладай. Сведкай апошніх гадоў жыцця графіні Эльжбеты былі Марыя Баўэр і Яніна Гелерт, дачка доктара Станіслава Нарбута. Знакаміты браслаўскі доктар сябраваў з Плятэрамі, гэта сяброўства распаўсюджвалася і на сем'і.



**Пахавальная працэсія з целам графа Ф.Плятэра накіроўваецца ад Браслаўскага касцёла да Бяльмонтаў. Лета 1924 г. Арыгінал зберагаецца ў Браслаўскім музеі**



**Эльжбета Плятэр. Фотаздымак з архіва сям"і доктара С.Нарбута. Графіня была хроснай маці ўсіх дзяцей лекара**

# Бяльмонцкі маёнтак. 1926 год

## (паводле газеты Słowo)

Бяльмонты - гэта вялікапанская латыфундыя, найбольш прадстаўнічая на ўсю Браслаўшчыну. Гэты маёнтак можна назваць сэрцам Браслаўшчыны. Адсюль на цэлы рэгіён дзесяцігоддзямі выпраменьвалася цывілізацыя і культура. Адсюль таксама за тыя дзесяцігоддзі на навакольныя землі сышло шмат дабра. Ужо дзвесце гадоў таму маёнтак быў велізарным земскім багаццем, які меў пасля скасавання прыгону звыш 40 тыс. дзесяцін зямлі, а цяпер абшар зменшыўся да 28 тыс. дзесяцін.

Яшчэ здалёку кідаецца ў вочы велізарны прысядзібны пляц, які рэдка можна ўбачыць у іншых маёнтках. Нагадваюць зорку пад'язныя дарогі, вельмі шырокія, абсаджаныя рознымі пародамі дрэў: надвіслянскімі таполямі, клёнамі, бярозамі, каштанамі, ясенямі. Пасярэдзіне гэтай зоркі



**Бяльмонцкі касцёл, былая палацавая капліца. Фотаздымак 1920-30-х гадоў**

нібыта гіганцкая клумба знаходзіцца парк. Гэта сапраўдны гай, але па яму можна ездзіць экіпажам. Тут жа і агароды, і сады, і было цэлае мястэчка з розных пабудоў. Але, на жаль, толькі было. Палацыкі былі, аранжэрэі, млыны, брамы, парканы - усё гэта сплыло.

Праз гэтыя шыкоўныя да гэтага часу алеі праступаюць велічныя задумы гаспадароў маёнтка. Момантамі сярод клумб, прысадаў удалечыні блісне возера - як мора. Чаруючая велічная прыгажосць Бяльмонтаў захавалася, ацалела. Знішчыць яе не здолела ніякая злая людская сіла. На вялікае шчасце, не знішчаны цудоўныя паркавыя дрэвы. Калі ва ўсім парку і высечана сотня альбо дзве дрэў, то гэтыя сляды вандалізму паглынае зялёная стыхія.

Каб уявіць, чым былі Бяльмонты раней, трэба зазірнуць у мінулае...

Набыў Бяльмонты ад Гільзенаў каля 1800 г. Мікалай Мануцы. Гэта быў вялікі прыхільнік прыроды, мастацтваў. Радавіты італьянец, ён асеў у Польшчы, шукаючы сваёй фартуны. Менавіта М.Мануцы даў пачатак развіццю Бяльмонцкай рэзідэнцыі, пабудаваў прадстаўнічы палац, залажыў шыкоўныя алеі, якія ўжо згад-валіся. Граф Мануцы надаў значнай колькасці навакольных вёсак нетутэйшыя назвы, якія і да гэтага часу захаваліся ...

Сын графа Станіслаў Мануцы меў захапленне - перабудоўваць сядзібы ў сваіх уладаннях. Не абмінулі яго ўвагі і Бяльмонты. Калі мясцовы палац быў у грунтоўнай перабудове - са знятым дахам, разабранымі ўнутранымі сценамі - С.Мануцы раптоўна памёр.

Шмат зрабіла для таго, каб Бяльмонты сталі прадстаўнічай рэзідэнцыяй Ідалія Плятэр (*пасля смерці С.Мануцы, які не меў дзяцей, маёнтак перайшоў да Броэль-Плятэраў* - Рэд.). Дзякуючы графіні, якой падабалася готыка, многія будынкі атрымалі вокны з гатычнымі праёмамі, у гатычным стылі вырашана магілкавая капліца з усыпальніцай Плятэраў. Гатычны матыў ацалеў у высокай браме, якая вядзе да аранжэрэйнага саду. Пры графіні Ідаліі парк быў пашыраны прысадамі ліп і клёнаў. Ідалія Плятэр вырашыла, зважаючы на вялікія кошты, не працягваць рэканструкцыі вялізнага палацу, а прызначыць пад сядзібны дом грунтоўны, вельмі доўгі флігель. З яго атрымаўся зручны і даволі элегантны з выгляду жылы дом. Гэты "часовы" палац праіснаваў аж да катастрофы 1918 г. Менавіта гэты будынак памятаў самыя слаўныя моманты мінулага Бяльмонтаў.

Граф Ігнат Плятэр з жамойцкай галіны вядомага роду (Плятэры ўласнага герба паходзяць з Вестфаліі, напачатку яны пісаліся - *von dem Broele genant Plater*. Каля 1300 года яны аселі на землях Польскіх Інфлянтаў і падзяліліся на жамойцкую і літоўскую лініі) уладальнік Бяльмонтаў, Богіна, а таксама вялікіх маёнткаў на Валыні і Падоллі, памёр у 1854 г. Пасля яго ўладальнікам Бяльмонтаў стаў Фелікс Броэль Плятэр, які быў жанаты на Эльжбеце з Патоцкіх (*дачка графа Радрыга на Канецполі, былога дзяржаўнага рэферэндарыя (службовая асоба ў Рэчы Паспалітай), якая выслухоўвала скаргі прыватных асоб і перадавала іх змест канцлеру, пазней знаёміў з рашэннямі манарха па дадзенай справе. Знаходзілася стала пры каралю, давала яму парады* - Рэд.). Калі граф Фелікс пачынаў гаспадарчую дзейнасць, то маёнтак, асабліва пасля паўстання 1863 г., быў у дрэнным стане. З вялікай энергіяй новы ўладальнік узяўся за справу. А магчымасць да працы была вялікай. На некалькі дзесяткаў верст на поўдзень ад Браслаўскага возера цягнуліся сялянскія гаспадаркі, раскіданыя сярод лясоў і балот. Фелікс Плятэр скіраваў сваю энергію на гэты зямельны масіў, здолеў прымяніць тут сельскагаспадарчую і эканамічную культуру больш высокага ўзроўню, якая стала ўплываць і на наваколле. Узвысіўся агракультурны ўзровень усёй Браслаўшчыны, у вёсках палепшыўся дабрабыт. У глухіх, недаступных кутках лесу завіравала жыццё. Дзесяткі гадоў аддаваў граф Плятэр часцінку свайго жыцця ва ўлюбёны маёнтак, пакуль не зрабіў з Бяльмонтаў перліну Браслаўшчыны. Увесь лясны абшар працялі водныя каналы для сплаву лесаматэрыялаў. Агульная іх даўжыня складае 136 вёрст. Паўстала сапраўдная лясная гаспа-

сдарка. Пры гэтым не толькі вырашылася праблема дастаўкі лесу да Рыгі, але гэтая праца мела вялікае значэнне і для рэгіёну. Быў пакладзены пачатак працы па рэгуляванню вод, якая застаецца для Браслаўшчыны адным з галоўных напрамкаў гаспадарчай дзейнасці. Дрэнаж быў праведзены ў фальварках. У адным з самых глухіх куткоў ляснога масіву, які не без падстаў звалі Пустошка, па ініцыятыве графа паўстала даволі значная фабрыка белага і жоўтага кардону. Фабрыка спажывала мясцовую сыравіну і перад самай вайной перапра-цоўвала да 400 пудоў сыравіны штодзённа. Мясцовасць граф назваў Плятэровам. Тут жа запрацаваў паравы млын і тартак. Утварылася калонія па ўзору амерыканскай, якая давала працу сотням мясцовых людзей. У Богіна, на грэблі, якая перагароджвае цэлы ланцужок азёраў, пабудавалі млын. На набытых бяльмонцкімі ўладальнікамі землях утварыліся квітнеючыя гаспадаркі. У кожным фальварку - хлявы чыстакроўных галандскіх кароў, не менш за 100 галоў, у Альгердове - хлеў (жарабцоў), у Опсе - цэнтральная паравая малочня. У той жа Опсе, якая знаходзіцца ў 15 вёрстах ад Бяльмонтаў, паводле ідэі і эстэтычнага разумення графіні ў прыгожай мясцовасці паўстаў новы маёнтак - сапраўдны Трыянон. У саміх жа Бяльмонтах, інтэнсіўна апрацоўваемыя палеткі, забылі аб сваёй зусім не ўкраінскай глебе і сталі даваць знакамітыя бяльмонцкія ўраджаі. Двор разбудаваўся як мястэчка. Вінакурня, паравы млын, чатыры цудоўныя фермы з галандскімі каровамі, коньмі ўсходніх парод з Сабанскіх стайняў графа Кароля Бразоўскага, вялізныя склады сельгасмашын, якія можна аглядаць як музей, і якія так любіў граф, пяць аранжэрэй для персікаў, вінаграду, інжыру. Цудоўная садавіна адпраўлялася ў Дынабург... Шоргат канторшчыкаў... Сапраўднае ўдзельнае княства, якое знаходзіцца на ўздыме.



**Знакаміты фатограф Ян Булгак у 1920-я гады зафіксаваў фрагмент роспісу палацавых сцен**

Аднак прыйшоў дзень. І дзень гэты - снежань 1918 г. Як толькі нямецкія госці, што займалі маёнтак, адышлі на захад, сюды памкнуліся сялянскія банды. Маёнтак запалаў з чатырох бакоў. Што вытрымала агонь - разбіралі. Што можна было разрабаваць, было разрабавана. Бяльмонты гарэлі 4 дні і 4 ночы. Згарэў палац, згарэла каля 50 розных будынкаў. Адыходзячыя германскія войскі глядзелі на гэта здалёку і абыякава. Так з дымам пай-шоў, ператварыўся ў попел бяльмонцкі даробак, створаны шматгадовай ня-стомнай працай, мудрай энергіяй і жалезнай воляй.

Сам граф Фелікс Плятэр, грамадзянскія заслугі якога да канца яшчэ не ацэненыя, не ўбачыў знішчэння плёну свайго жыцця. Провід Божы пазбавіў яго ад пакут. Калі ён з Вільні ехаў у Бяльмонты ў чэрвені 1924 г., то гэта быў яго апошні шлях, смерць назаўсёды закрыла яго вочы. Стары граф вярнуўся ў свае Бяльмонты, хаця мёртвы, аднак вярнуўся...



**Групавы здымак каля Бяльмонцкай капліцы. 1930-я гады. У капліцы знаходзілася крыпта для пахавання ўладальнікаў маёнтка. Тут знайшоў апошні прытулак Ф.Плятэр. У савецкія часы крыпта была разрабавана. Колькі дзесяткаў гадоў пераказваліся легенды аб скарбах, нібыта калісьці знойдзеных у капліцы.**

Цяпер у ацалелым доміку, у якім ніхто з колішніх уладальнікаў маёнтка раней не захацеў бы жыць, пасялілася графіня Эльжбета. Яна стала жонкай Марыяна Радзецкага Мікуліча і разам з ім займаецца адбудовай маёнтка... Тут ужо можна ўбачыць нават аранжэрэйку, якая вырасла нібыта грыб пасля дажджу. Палац жа ляжыць у руінах пасярод парка - вельмі доўгая куча цэглы і друзу, уся зарослая дрэвамі, хмызняком, дзікай раслiннасцю і кветкамі.

Цяперашні Бяльмонцкі палац - нізкі, з ганачкам *simple comme bonjour*, белы дамок з палісаднічкам, поўным настурцый і нагаткоў, мальваў і флоксаў. З усмешкай на вуснах графіня называе гэты палісаднічак "*le jardin de mon curé*" (сад майго палаца). ...Ёсць у Бяльмонтах і ксёндз-пробашч, браслаўскі філіяліст. Касцёлам служыць даўнейшая капліца, размешчаная на краі аднаго з крылаў таго самага палаца, які хацеў перабудаваць граф Мануццы, але здолеў толькі разваліць. Аднак нічога іншага ён і не змог бы прыдумаць лепшага для ўпрыгажэння парка. Пасярод чырвоных муроў вышэй сцен узняліся ад самай падлогі дрэвы вышынёй з два паверхі. З вялікіх без рам вокнаў высоўваюцца галінкі, па сценах карастаецца дзікі хмель. Ад палацу, які стаіць на ўзвышшэнні, перспектыва ўпіраецца ў самае возера, што блішчыць удалечыні. Крыло палаца з капліцай выглядае нібыта вежа з сівой даўніны. Пад капліцай можна назіраць некалькі дзіўна збудаваных падзямелляў з арачнымі скляпеннямі. Там пануе нейкі асаблівы дух. З'яўляюцца думкі пра "Караля замчышча" Гашчынскага.

З артыкула: "Brasławskie sempervivum". Газета "Słowo" (Вільня). 10 жніўня 1926 г.

# Першыя дзіцячыя яслі на Браслаўшчыне

Граф Фелікс Плятэр у гісторыі маёнтка Бяльмонты вылучаецца як найбольш энергічны гаспадарнік, добры арганізатар, чалавек адкрыты да розных навацый. Аб некаторых ініцыятывах графа ўжо пісалася ў шэрагу выданняў: заснаванні лесаапрацоўчых заводаў і рабочага пасёлка Плятарова, пажарнай дружыны ў Бяльмонтах. Захаваліся архіўныя сведчанні аб некаторых іншых праектах, якія існавалі пры падтрымцы графа. Напрыклад, у Каўнаскім акруговым архіве ёсць справа аб заснаванні пры Бяльмонцкім бровары ў 1913 г. тэхнічных курсаў (Ф.50, воп.1, спр.24330). Матэрыялы гэтага архіва (Ф.50, воп.1, спр.23925) сведчаць аб існаванні ў пачатку XX ст. Бяльмонцка - Плятароўскага сельскагаспадарчага гуртка і спробе адчыніць пры гэтым гуртку ў Бяльмонтах сельскагаспадарчай бібліятэкі-чытальні з магчымасцю арганізацыі сустрэч па абмену сельскагаспадарчым вопытам (аб гэтым перад губернатарам у 1908 годзе хадайнічаў асабіста Ф.Плятэр). У 1907 г. граф ініцыіраваў заснаванне Бяльмонцкага таварыства спажыўцоў.

Адно з каштоўных пачынанняў Ф.Плятэра - адкрыццё на ўласны кошт у Бяльмонтах, Опсе і Злоце ясляў для дзяцей служачых і працаўнікоў маёнтка. 11 студзеня 1908 г. граф накіраваў да Ковенскага губернатара Пятра Вяроўкіна афіцыйнае прашэнне аб дазволе адчыніць яслі, адначасова ён напісаў губернатару, якога ведаў асабіста, ліст, у якім растлумачыў, што "*...ясли для детей в моих имениях крайне необходимы, так как там имеется значительное количество служащих, обременённых семьёй, так что, уходя на работу, они должны детей своих оставлять без надзора...*". Губернатар прыхільна паставіўся да просьбы графа і назваў жаданне адкрыцця ясляў "*симпатичным начинанием*". Патрабаваліся некаторыя ўдакладненні наконт будучай працы ясляў. Графам былі прадстаўлены адмыслова складзеныя правілы прыёму і ўтрымання дзетак. У сакавіку губернатар адобрыў ініцыятыву Ф.Плятэра. Ці былі адчынены яслі ў Бяльмонтах, Опсе і Злоце пакуль не вядома, як невядомы і падрабязнасці іх функцыяніравання. У нашым распараджэнні ёсць толькі копія правіл працы ясляў, прапанаваных графам на зацвярджэнне губернатарам. Мяркуем, што чытачу будзе цікава азнаёміцца з некаторымі параграфамі гэтага дакумента.



**Служачыя графскага маёнтка Бяльмонты. 1913 г. Фотаздымак з музейных збораў**



**Прашэнне графа Ф.Плятэра аб адкрыцці дзіцячых ясляў. 1913 г.**

**Правила о порядке приёма и содержания детей в дневном приюте-ясли, учреждаемом на собственные средства графом Феликсом Игнатьевичем Плятером**

§ 1.

Дневной детский приют-ясли имеет своей целью дать дневное призрение в горячую страдную пору, как детям служащих и рабочих имения..., так и детям бедных жителей этого имения, занимающихся сельско-хозяйственными и другими работами, дабы дети их не оставались без надлежащего надзора и не могли сделаться жертвами несчастных случаев, или же быть виновниками общественных зол.

...

§ 3.

В дневной приют-ясли принимаются дети не старше 10 лет христианского вероисповедания.

ПРИМЕЧАНИЕ: В предупреждение возможности принятия в приют-ясли детей старше 10 лет, необходимо иметь особую книгу для записи детей, к которой должны быть подшиваемы удостоверения или справки о возрасте детей, выданныя подлежащими сословными учреждениями, полицией, должностными лицами и т.п., или же метрическия свидетельства о рождении детей, посещающих приют. Книга эта должна быть предъявляема по каждому требованию ревизирующим лицам.

...

§ 6.

С особого разрешения учебнаго начальства в приюте-ясли допускается обучение детей азбуке на русском и природном их языках и началам грамоты, а также основным правилам вероисповедания.

...

§ 7.

Заведующий (ая) приютом-ясли и надзирательница должны наблюдать, чтобы в приюте-ясли было чисто, тепло и сухо, чтобы воздух в нём был чистый и здоровый, чтобы дети были обмыты, причёсаны и по возможности чисто одеты, чтобы никто не смел бить детей.

«ПАВЕТ» DISTRICTUS

ВЫДАННЕ КРАЯЗНАЎЦАЎ БРАСЛАЎШЧЫНЫ

Наклад 299 асобнікаў. Распаўсюджваецца бясплатна.

Выдаецца з ліпеня 2001 г.

Адказны за выпуск: Кастусь Шыдлоўскі
г.Браслаў, вул.Кастрычніка 11-10, тэл. 21-4-28
E-mail: brasmc@vitebsk.by

Над нумарам працавалі: Кастусь Шыдлоўскі, Аляксандр Панцялейка, Валеры Буко

Выдадзена пры дапамозе цэнтра выдавецкіх ініцыятыў «Сумежжа» (Паставы)